# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

і

## САВЕТУ ПРАЦЫ АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК



### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
САЮЗУ ССР

№ 5.

АРТЫКУЛЫ
114—123.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква • 1923 • Крэмль.

## ЗЬМЕСТ.

# ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

## ПРЭЗЫДЫУМУ

# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**114. Аб новай рэдакцыі статуту аб дзяржаўным гэрбавым збору і аб адмене некаторых узаконеньняў.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

**1.** Зацьвердзіць у новай рэдакцыі статут аб дзяржажаўным гэрбавым збору.

**2** Дакумэнты, выданыя, ухваленыя і зробленыя пры дзйнасьці адмяняемага статуту аб дзяржаўным гэрбавым збору, належаць аплаце гэтым зборам на падставе гэтага адмяняемага статуту і выданных у з'іначаньне дадатак і разьвіцьце яго законапалажэньняў. Тыя дакумэнты, зьлічво (сумма) якіх, пры робленьні іх, не магло быць вызначана, аплачваюцца па выкананьні, поўнасьцю або часткаю, пры дзейнасьці нанова ўвадзімага статуту, згодна правілам гэтага апошняга.

**3.** Тэрмін ўвядзеньня ў дзейнасьць новага статуту аб гэрбавым збору устанаўляецца НКГС Саюзу ССР.

**4.** З ўвядзеньнем у дзейнасьць новага статуту аб гэрбавым збору лічыць адмененнымі наступныя узаконеньні:

а) статут аб дзяржаўным гэрбавым збору ад 16 лютага 1922 г. (З. У. 1922 г., арт. 89);

б) п. „е“ арт. 1-га інструкцыі ЎЦВК ад 10 жніўня 1922 г. аб рэгістрацыі таварыстваў, саюзаў і аб'яднаньняў (З. У. 1922 г. 623 арт.);

в) п. „д“ арт. 1-га інструкцыі УЦВК ад 10 жніўня 1922 году аб выдачы дазволаў на склік з'ездаў і сходаў розных арганізацыяў, саюзаў і аб'яднаньняў (З. У. 1922 г., арт. 624);

г) пастанова УЦВК і СНК ад 28 верасьня 1922 г. аб дачы народным судам і саветам народных судзёў права самастойнае вытворчасьці справаў аб невыкананьнях статуту аб гэрбавым збору (З. У. 4922 г., арт. 789);

д) пастанова УЦВК і СНК ад 4-га студзеня 1923 г. аб павялічэньні абкладаньня гэрбавым зборам дакумэнтаў па гандлёвым зьдзелкам, рабімым вонках біржы (З. У. 1923 г., арт. 30);

е) пастанова УЦВК і СНК ад 4 красавіка 1923 г. аб дадатку арт. 15-га статуту аб дзяржаўным гэрбавым збору (З. У. 1923 г., арт. 316);

ж) пастанова УЦВК і СНК ад 11 красавіка 1923 г. аб павялічэньні ставак гэрбавага збору дзеля некаторых дакумэнтаў, абкладваемых пропорцыанальным зборам (З. У. 1923 г., арт. 322);

з) пастанова СНК ад 26 чэрвеня 1923 г. аб павялічэньні ставак простага гэрбавага збору („Известия ВЦИК“ ад 27 ліпеня 1923 г.);

і) пастанова УЦВК і СНК ад 16-га ліпеня 1923 г. аб звальненьні ад гэрбавага збору дакумэнтаў па разьмяркаваньню дзярж. нас. пазыкі (ссуды) („Известия ВЦИК“ ад 20 ліпеня 1923 г.).

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

17 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 187 „Известий“ ЦВК Саюза ССР ад 22 жніўня 1923 г.

---

# СТАТУТ

## аб дзяржауным гэрбавым збору.

**Арт. 1.** Дзяржаўнаму гэрбавому збору падлягаюць паказаныя ў даложанай табелі (Дадатак 1-ы):

а) пісьмовых звароты прыватных асобаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў, водлуг іх ініцыятывы і ў іх інтарэсах, да ўрадовых установаў і ўрадовых асобаў.

б) Пісьмовыя адказы на паказаныя у п. «а» пісьмовыя й на словах звароты, а так сама паперы, акты і дакумэнты, якія выдаюцца урадовымі установамі і ўрадовымі асобамі водлуг прозьбы і ў інтарэсах прыватных асобаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў.

в) Паперы, акты і дакумэнты аб грамадзянска-праўных зьдзелках прыватных асобаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў між сабою, а так сама з урадовымі установамі, урадовымі асобамі і дзяржаўнымі прадпрыемствамі.

Увага 1. У далейшым тэксту статуту прыватныя асобы і арганізацыі для кароткасьці будуць звацца „прыватнымі асобамі".

Увага 2. Да прыватных прадпрыемстваў (прыватных асобаў), па абкладанью гэрбовым зборам дараўноўваюцца так сама дзяржаўныя прадпрыемствы, якія падлягаюць прамысловаму падатку.

Увага. 3. У далейшым тэксту статуту паперы, акты і дакумэнты будуць звацца дзеля кароткасьці „дакумэнты".

**Арт. 2.** Установы, асобы і дакумэнті, якія звальняюцца ад гэрбавога збору, паказаны ў даданым да гэтага артыкулу пералічэньні (дадатак 2-гі).

**Арт. 3.** Гэрбавы збор падзяляецца на а) звычайны, які спаганяецца ў вядомых стаўках і б) пропорцыйны, які спаганяецца ў процантным аднашэньні да сумы дакумэнту.

**Арт. 4.** Звычайны гэрбавы збор вызначаецца чатырох разрадаў, у наступных цьвярдых стаўках 1 р. 25 к., 75 к. і 5 к. Пропорцыйны гэрбавы збор вызначаецца трох разрадаў; $^1/_2$%, $^1/_4$% і $^1/_{10}$% ад сумы дакумэнтаў, а яго павялічаныя абклады тых жа разрадаў—у падвойным памеры.

**Арт. 5.** Перавод паказанных у арт. 4-м цьвярдых ставак звычайнага гэрбавога збору ў Савецкія грашовыя знакі адпаведна зьмене курсу рубля, пэрыядычна вызначаецца ў парадку, які прадгледжаны асобнаю пастановаю.

**Арт. 6.** Водлуг дакумэнтаў, якія абкладаюцца пропорцыйным гэрбавым зборам, належачы да заплаты збор ня можа быць ніжэй абкладу звычайнага гэрбавога збору IV разрадау, хоць бы, водлуг пропорцыйнага вылічэньня, ён і не дасягаў гэтага абкладу.

**Арт. 7.** Дакумэнт, у якім месьціцца некалькі асобных зьдзелак, аплачваецца гэрбавым зборам водлуг сумы кожнай зьдзелкі ў асобку.

**Арт. 8.** У ва ўсіх выпадках, якія паказаны ў арт. 1-м статуту, заплата гэрбавога збору ускладаецца на прыватных асобаў.

**Арт. 9.** Выплата гэрбавога збору адбываецца пры дапамозе гэрбавой паперы ці гэрбавых марак, якія пагашаюцца вызначаным парадкам, альбо канавымі грашыма шляхам узносу іх у дзяржаўныя скарбніцы ці безпасрэдна ў скарбніцы тых урадовых установаў, якім прыняцьце збору канавымі грашыма будзе дазволена народным камісарыятам грашовых справаў.

Увага. Аплата гэрбавым зборам вэксалёў адбываецца шляхам напісаньня іх на вэксалёвай паперы адпаведнай вартасьці.

**Арт. 10.** Збор належыць да выплаты:

а) ў выпадках, якія паказаны ў п.п. „а" і „б" арт. 1-га Статуту — пры самым зьвяртаньні прыватных асобаў да ўрадовых установаў і да ўрадовых асобаў,

б) ў выпадках, якія паказаны ў п. „в" арт. 1-га— пры адбываньні дакумэнтаў.

Увага 1. Установам і урадовым асобам ў выпадках атрыманьня пісьмовых заяваў, якія не аплачаны гэрбавым зборам, даецца права, не спыняючы выкананьня ў справах, якія не чакаюць адкладу, даваць адказы на зьвяртаньні, робячы ў той жа час загады аб спагнаньні гэрбавога збору пры выдачы адказу. Водлуг іншых справаў у выпадках незаплаты збору выкананьне не адбываецца.

Увага 2. Для дакументаў водлуг грамадзянска праўных зьдзелак прыватных асобаў, якія адбываюцца хатнім парадкам між сабою, а так сама для дакумэнтаў, якія прыходзяць з-за граніцы, дазваляецца наступная ў двухтыднёвы тэрмін лічучы ад часу утварэньня дакумэнту ці атрыманьня з-за граніцы, але раней якога колечы водлуг дакумэнту выкананьня ці паданьня у урадовую ўстанову ці ўрадовай асобе.

Увага 3. Дакумэнты, сума якіх пры ўтварэньні іх ня можа быць вызначана хоць бы прыблізна або часткова, аплачваюцца пры ўтварэньні звычайным гэрбавым зборам і дадаткова пропорцыйна пасьля вызначэньня сумы.

**Арт. 11.** Агульнае загадваньне, нагляд і кіраваньне справамі, што тычацца гэрбавога збору, а так сама інструктаваньне водлуг гэтага установаў і ўрадовых асобаў належыць народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР. На мяйсцох гэтыя абавязкі ўскладаюцца на народныя камісарыяты грашовых справаў Саюзных рэспублік і на губэрскія (краінныя) аддзелы грашовых справаў.

**Арт 12.** У парадку нагляду за правідловым ужываньнем гэтага статуту грашовыя органы, памянёныя ў арт. 11-м, могуць рабіць цераз рэвізораў па гэрбавому збору, грашовых інспэктароў і іншых дваіх упоўнаважаных асобаў рэвізіі:

а) у ва ўсіх урадовых установах і прадпрыемствах і у урадовых асобаў,

б) у прыватных прадпрыемствах і аргрнізацыях.

**Арт. 13.** Усе установы, прадпрыемствы і арганізацыі, пад страхам адпаведнасьці водлуг арт. 226-м Карнага Кодэксу, павінны захоўваць належачыя аплаце гэрбавым зборам дакумэнты, а так сама гандлёвыя кнігі і справаводзтва, што тычыцца гэрбавога збору за тры апошнія гады і падаваць іх водлуг першага вымаганьня ўрадовых асобаў, якія назначаны дзеля ўтварэньня рэвізіі.

**Арт. 14.** Адпаведнасьць за поўную й своечасную выплату гэрбавога збору і за правідловасьць пагашэньня гэрбавых знакаў складаюць:

а) водлуг дакумэнтаў, паказаных у п. „а" і „б" арт. 1-га статуту,—урадовыя асобы, якія прымаюць і выдаюць дакумэнты;

б) водлуг дакумэнтаў, паказаных у п. „в" арт. 1-га статрту—прыватныя асобы, а калі дакумэнты гэныя ўтвараюцца імі з урадовымі установамі або ўрадовымі асобамі, дык і гэныя апошнія; калі ж яны адбываюцца ці зьяўляюцца да засьвядчэньняя ў нотарыяльным парадку—толькі ўрадовыя асобы, утвараючыя ці пасьвядчаючыя дакумэнты.

**Арт. 15.** За парушаньне правілаў аб гэрбавым зборы, ўрадовыя асобы складаюць адпаведнасьць дысцыплінарным парадкам і, звыш таго, павінны зьвярнуць незаплачаны або недаплачаны гэрбавы збор ці вартасьць неправідлова пагашаных гэрбавых знакаў.

**Арт. 16.** Прыватныя асобы, за парушаньне правілаў аб гэрбавым зборы, павінны, водлуг салідарнай адзін за аднаго адпаведнасьці, заплаціць збор і, звыш таго, штраф у 10-цёх разовым памéры незаплачанага або недаплачанага збору ці вартасьці неправідлова пагашаных гэрбавых знакаў.

**Арт. 17.** Належачая да спагнаньня за парушаньня цьвярдая стаўка звычайнагэ гэрбавога збору пераводзіцца ў савецкія грашовыя знакі водлуг курсу часу выкрыцьця парушэньня (арт. 5), адпаведна з чым вылічаюцца паказаныя ў арт. 15 і 16 возмешчэньні й штраф. Водлуг дакумэнтаў, якія належаць аплаце пропорцыйным гэрбавым зборам, сума належачага збору пераводзіцца ў залатую валюту па курсу котыравальнай камісіі на дзень выкрыцьця парушэньня у адпаведнасьці з чым вылічаюцца паказаныя ў арт. 15 і 16 возмешчэньні й штраф.

Увага. Ня ў свой час заплачаны гэрбавы збор або вартасьць неправідлова пагашаных гэрбавых знакаў выключаецца з агульнай сумы спагнаньня, якая вылічаецца паказаным парадкам.

**Арт. 18.** Выняткам з правілу, памянёнага ў арт. 16-м, абавязковасьць заплаты гэрбавога збору і штрафу ўскладаецца толькі на адну старану:

1) на асобу выдаўшую дакумэнт—водлуг дакумэнтаў, якія пасылаюцца за-граніцу;

2) на трыманьніка дакумэнту — водлуг дакумэнтаў, прыйшоўшых з-за граніцы;

3) на трыманьніка грошай за няўстойку—водлуг умоваў аб няўстойцы;

4) на нанімацеля—водлуг умоваў аб пэрсональным найму;

5) на даручэньнікаў—водлуг выдачы даручэньняў.

**Арт. 19.** Водлуг парушаньняў правілаў аб гэрбавым збору, якія зробляны даверанньмі ці іншымі прадстаўнікамі, абавязак заплаты гэрбавога збору ці штрафу (арт. 16 і 18) складаюць давераныя або прадстаўнікі, а ў выпадку немагчымасьці спагнаньня з іх абавязак заплаты складаюць давершчыкі.

**Арт. 20.** Гэрбавы збор, а так сама штраф за парушэньне правілаў аб гэрбавым збары не спаганяецца, калі ад часу парушэньня мінула з або больш гадаў.

**Арт. 21.** Аб усіх выкрытых пры рэвізіях або іншым парадкам парушэньнях правілаў аб гэрбавым збору, установы і ўрадовыя асобы, выкрыўшыя парушэньні, апрача Найвышэйшага Суду, народных і губэрскіх судоў, паведамляюць у мяйсцовы губэрскі (краіны) грашовы аддзел, з дадачаю дакумэнтаў, якія месьцяць у сабе парушэньні.

Паказаныя тут судовыя установы ў выпадку падачы ім дакумэнтаў неаплачаных гэрбавым зборам або аплачаных з парушэньнем правілаў аб гэным зборы, беспасрэдка выносяць вырашэньні аб спагнаньні з прыватных асобаў гэрбавога збору і штрафу, згодна патрабаваньням гэтага статуту, а аб папушчэньнях урадовых асобаў паведамляюць у належны губ. (краін.) грашаддзел.

**Арт. 22.** Губ. (краін.) грашаддзелы водлуг усіх атрыманых, згодна арт. 21 паведамленьняў, а так сама пасьля выкрыцьця імі самімі парушэньня гэтага статуту, павінны ў месячны тэрмін зрабіць пастанову:

а) аб належачых спагнаньню сумах гэрбавога збору і штрафу як з прыватных, так сама і з урадовых асобаў;

б) аб прыцягненьні да дысцыплінарнай адказнасьці ўрадовых асобаў за парушэньне правілаў аб гэрбавым зборы;

в) аб разпачатку судовага прасьлядаваньня за злачынствы прадгледжаныя Карным Кодэксам.

**Арт. 23.** Пастановы, што наступілі па п.п. „а" і „б" арт. 22 у двухтыднёвы тэрмін пасьля іх агалашэньня могуць быць абжалаваны (паданьне скаргі) праз адпаведны губ. (краін.) грашаддзел у губэрскую па гэрбаваму збору камісію, склад якой вызначаецца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР, водлуг згоды з Народнымі Камісарыятамі Юстыцыі Саюзных рэспублік.

**Арт. 24.** Падача скаргі не спыняе спагнаньня, але губ. (краін.) грашаддзелу дазваляецца спыняць спагнаньні водлуг пастановаў, на якія пададзены скаргі ў вызначаны тэрмін.

**Арт. 25.** Жалабшчык (падаўца скаргі) можа пэрсональна або праз давернага быць прысутным у камісіі пры разглядзе справы і даваць водлуг яе тлумачэньні

**Арт. 26.** Пастановы губэрскай камісіі з'яўляюцца канчатковымі і могуць пераглядацца НКГС Саюзу ССР толькі ў парадку нагляду.

**Арт. 27.** Вырашэньні народных і губэрскіх судоў у справах аб гэрбовым збору (арт. 21) належаць абжалаваньню водлуг агульных правілаў вытварэньня судовых справаў.

**Арт. 28.** Народнаму камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР дазваляецца вызначаць падрабязговыя правілы спагнаньня гэрбавога збору на падставах гэтага статуту, а так сама агалашаць, у разтлумачэньне статуту і дадаткаў да яго, падрабязговыя пералічэньні дакумэнтаў, належачых збору і выняткаў з яго.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Нам. Сэкратара СНК Саюзу ССР* **С. Флаксэрман.**

7 жніуня 1923 г.
Масква—Крэмль.

ДАДАТАК 1-ы
**да статуту аб дзяржаўным гэрбавым збору.**

## Табэль паперау, актау і дакумэнтау, падлеглых гэрбаваму збору.

| §§ | Найменьне папераў, актаў і дакумэнтаў. | Катэгорыя гэрбавага збору. |
|---|---|---|
| | **Частка 1-ая.** | |
| | **Дакумэнты, аплачваемыя простым гэрбавым зборам.** | |
| | **Аддзел I.** | |
| 1. | Звароты прыватных асобаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў, зробленыя на паперы (водлуг іх ініцыатывы і ў іх інтэрасах) у ўрадавыя установы і да асобаў, лічучыхся на пасадзе, па ўсім справам, апрача вынятых і паказаных у ніжэйнаступных §§ гэтага табэлю . . . . . . . . . . | II |
| . | Тое самае па справам: | |
| | а) аб дазволу дзеяльнасьці замежных прадпрыемстваў на тэрыторыі Саюзу ССР. | I |
| | б) аб дазволу на адчыненьне, адчужджэньне, здачу ў арэнду гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, на зінačаньне пабудаваньня апошніх, на замену у іх машынаў і апаратаў новымі, на устаноўку паравых катлоў. . . . . . | I |
| | в) аб дазволу на пабудаваньне ў местах новых будынкаў, на перабудоўку або зьнясеньне старых. . . . . . . . . | I |
| | г) аб устанаўленьні акцыонэрных таварыстваў, гандлёва-прамысловых; іншых таварыстваў, за выключэньнем коопэратываў, арцеляў і іх аб'яднаньняў, аб з'інačаньні статутаў і ўмоваў гэтых таварыстваў. . . . . . . . . . . . | I |
| | д) аб выдачы чужынцам пасьведчаньняў усякага гатунку дзеля пражываньня і пераездаў у межах Саюзу ССР. . . . | I |
| | Заявы аб адмене зробленых тэстамэнтаў (арт. 426 грамадзянскага кодэксу). | |
| 4. | Заявы адно аднаму (одной стороны другой) праз нотарыяльныя органы. . . . . . | I |
| 5. | Абвесткі (дэкларацыі), падаваемыя у мытніцы ўласьнікамі тавараў пры марскіх адпраўках з адных партоў Саюзу ССР у другія і закардон. . . . . . . . . . | |
| | **Аддзел II.** | |
| 6. | Адказы, выказаныя на паперы, на паказаныя у пункту «а» арт. 1 статуту звароты, выказаныя на паперы і на словах, і іншыя паперы, акты, дакумэнты, спраўкі і копіі, выдаваемыя па просьбе і ў інтэрасах прыватных асобаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў, ўрадавымі установамі і асобамі, лічучыміся на пасадзе па усім справам, апрача вынятых і паказаных у ніжэйнаступных параграфах гэтага табэлю. | II |
| 7. | Тое самае па справам, паказаным у § 2 гэтага табэлю . . . . . . . . . . . . | I |
| 8. | Выпіскі (першыя або галоўныя) з нотарыяльных актавых кніжак аб занесеных у іх тэстамэнтах . . . . . . . . . . | I |
| 9. | Пасьведчаньні, выдаваемыя народнымі судзьдзямі у засьведчаньне правоў на спадчыну (арт. 435 грамадзянскага кодэксу). | |
| 10. | Пасьведчаньні, выдаваемыя прыватным асобам па справам аб санітарным становішчы гандлёвых і прамысловых завядзеньняў . | I |
| 11. | Пасьведчаньні, выдаваемыя нотарыяльнымі органамі па зробленым праз іх заявам (гл. § 4) . . . . . . . . . . . . . | I |
| 12. | Лесарубачныя білеты . . . . . . . . . | II |
| 13. | Надпісы (адзнакі) на вэксалях аб пратэсту іх. | II |
| 14. | Высьвядчэньніі пасьведчаньні аб агляданьні скоту, мясных і іншых хуткапсуючыхся прадуктаў, прызначаных дзеля гандлёва-прамысловых мэтаў. . . . . . . . . | II |
| 15. | Высьвядчэньні на права правозу абкладваемых акцызам рэчаў. . . . . . . . . | III |
| 16. | Білеты на карыстаньне пабочнымі лясными матар'ялами (лыкам, павалам, хворастам і г. д.) . . . . . . . . . . . . . . | IV |
| 17. | Квітанцыі і расьпіскі, выдаваемыя урадавымі установамі і асобамі, якія лічуцца на пасадзе, па жаданьню прасіцеляў, у тых выпадках калі выдача гэткіх квітанцыяў і расьпісак не абавязкава . . . . . . . | IV |
| 18. | Накладныя—фактуры на выпуск абкладваемых акцызам рэчаў і пасьведчаньні законнасьці іх здабыцьця . . . . . . . | IV |
| | **Аддзел III.** | |
| 19. | Даручэньні і перадаручэньні: | |
| | п. 1) засьведчаныя ўрадавымі установамі і асобамі, лічучыміся на пасадзе: | |
| | а) на кіраваньне маемасьцю і па гандлёвым справам . . . . . . . . . . | I |
| | б) іншыя . . . . . . . . . . . . . | II |

| §§ | Найменьне папераў, актаў і дакумэнтаў. | Катэгорыя гэрбавага збору. |
|---|---|---|
| | п. 2) не засьведчаныя ўрадавымі установамі і асобамі, лічучыміся на пасадзе. | III |
| 20. | Умовы, прадмет якіх, па сваей якасьці, не належыць грашовай ацэнцы . . . . . . | I |
| 21. | Умовы аб аддачы у безнаграднае ўладаньне або карыстаньне маемасьці, якая ня можа прынасіць ніякага прыбытку. . . . . . | I |
| 22. | Умовы, па якім, пры заключэньні іх, немагчыма, хоць бы прыблізна або часткаю, вызначыць іх суму (да высьненьня сумы). | I |
| 23. | Умовы аб няўстойках, як рабімыя у форме асобнага акту, гэтак і надпісам на іншых актах, аж да прывядзеньня іх у выкананьне (але не варункі аб няўстойках, уключоныя у ўмову). . . . . . . . . . . | I |
| 24. | Умовы і абавязнасьці пры першапачатковым адчыненьні, або наступным павялічэньні крэдыту па адумысловаму бягучаму рахунку. . . . . . . . . . . . | I |
| 25. | Умовы і абавязнасьці без павялічэньня сумы гэтых дакумэнтаў: | |
| | а) у дадатак і разьвіцьцё іх. . . . . | I |
| | б) аб адсрочцы іх выкананьня (апрача грашовых абавязкаў доўгу) . . . | I |
| 26. | Умовы і надпісы на іх і абавязальнасьцях аб іх скасаваньні, бяз якога—небудзь спагнаньня выдаткаў за скасаваньне умовы | I |
| 27. | Запісы трэцейскія—аб передачы справаў у трэцейскія суды . . . . . . . . . . . . | |
| 28. | Абавязальствы, выдаваемыя сябрамі таварыства ўзаемнага крэдыту, коопэратываў і г. п. арганізацыяў па справам аб маентнай адпаведнасьці па опэрацыям гэтых арганізацыяў. . . . . . . . . . . . . | I |
| 29. | Паручыцельствы, як рабімыя у форме асобнага акту, гэтак і надпісам на іншых актах. . . . . . . . . . . . . . . . . | I |
| 30. | Аднаўляемыя купонныя лісты да процантных папераў. . . . . . . . . . . . . . . . | I |
| 31. | Пасьведчаньні аб пераводу імяных процантных папераў на іншую асобу або на прад'яўніка і адваротна або надпісы аб гэтым на самых паперах, за кожны ліст перадаваемай паперы. . . . . . . . | I |
| 32. | Заборныя кніжкі на выдачу тавараў з гандлёвых завядзеньняў з розьнічнай прадажай, пры вялічыні кніжкі ня больш чым 80 старонак у $^1/_8$ ліста . . . . . . | III |
| 33. | Дублікаты накладных і коносаментаў, выдаваемыя транспартнымі прадпрыемствамі адпраўшчыкам грузаў у пасьведчаньне прыняцьця грузаў дзеля перавозкі. . . . | IV |
| 34. | Надпісы перадатачныя: на дублікатах накладных і коносаментаў, вэксалях і іншых абавязках доўгу, апрача залогавых актаў аб залогу сялібаў і права забудаваньня, ўкладных білетаў, захаваных расьпісках, засьведчаньнях таварных складаў (варантах), выканаўчых лістах, талонах да асігновак і г. п. дакумэнтах (але не надпісы аб перадачы правоў і абавязкаў па умовам і абавязальствам, паказаныя у § 47). | IV |
| 35. | Расьпіскі, квітанцыі, лісты і. г. п. дакумэнты, выдаваемыя: | |
| | а) па зьдзелкам, зробленым на паперы, у пасьведчаньне прыёму грошаў, тавараў і іншых каштоўнасьцей, у тым ліку расьпіскі на ўмовах, абавязальствах і інш. дакумэнтах, пасьведчаючых зьдзелкі, апрача рахункаў, . . . | IV |
| | б) такія ж расьпіскі і інш. па зьдзелкам, зробленных на паперы і на словах, калі у дакумэнту не паказана каштоўнасьць прынімаемай маемасьці . . . | IV |
| 36. | Рахункі, выдаваемыя у выкананьне зьдзелак усякага гатунку, зробленых на паперы; рахункі агульныя і на прыняты назад тавар; выпіскі рахункаў з гандлёвых кніжак. . . . . . . . . . . . . . . . . | |

## Частка 2-ая.

### Дакумэнты, аплачваемыя пропорцыянальным гэрбавым зборам.

### Аддзел 1.

| §§ | Найменьне папераў, актаў і дакумэнтаў. | Катэгорыя гэрбавага збору. |
|---|---|---|
| 37. | Умовы, абавязальствы і г. п. дакумэнты маентнай якасьці: | |
| | а) па устанаўленьню, пераходу і абмяжаваньню правоў на ўладаньне маемасьцю, на карыстаньне і загадываньне ім, | I |
| | б) аб таварыстве, . . . . . . . . . | I |
| | в) аб асабістым найму, . . . . . . . | I |
| | г) аб няўстойках (пры прывядзеньні іх у выкананьне). . . . . . . . . . . | I |
| | д) аб падрадах і дастаўках, апрача гандлёвых даставак. (Гл. увагу 2 да аддзелу III) . . . . | I |
| | Увага 1. З паказаных у аддзеле 1 часткі 2 гэтага табэлю абкладаваюцца павялічаным, у падвойнай вялічыні, акладам пропорцыянальнага гэрбавога збору 1-й катэгорыі наступныя ўмовы і абавязацельствы: | |
| | а) аб дарэньні, | |
| | б) аб прадажы сялібаў, | |
| | в) аб перадачы гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, | |
| | г) аб устанаўленьні гандлёвых і прамысловых таварыстваў, за выключэньнем коопэратываў і арцеляў і іх аб'яднаньняў, | |

| §§ | Найменьне папераў, актаў і дакумэнтаў. | Катэгорыя гэрбавага збору. |
|---|---|---|
| | д) аб камісіі. | |
| | Увага 2. Тым жа парадкам, г. ё. павялічаным у падвойнай вялічыні акладам абкладаваюцца выпускаемыя акцыонэрнымі таварыствамі і інш. прадпрыемствамі акцыі. паі, аблігацыі і каштоўныя паперы або выдаваемыя на адтрыманьне іх часовыя пасьведчаньні, | |
| | Увага 3. Умовы аб забудоўцы зямельных вучасткаў, адбудове разбураных і дабудаваньню няскончаных будынкаў абкладаюцца зьніжаным пропорцыянальным зборам, вялічынёю 0,15 сумы акту ( паст. ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г.—«Известия» ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 3 жніўня 1923 т. | |
| 38. | Вэксалі, заёмныя лісты, расьпіскі у доўгу, падпісаныя даўжнікамі рахункі (незалежна ад аплаты рахункаў), дакумэнты па зьдзелкам аб залогу маемасьці і усякага гатунку іншыя, грашовыя дакумэнты абавязацельствы і доўгу і надпісы аб адсрочцы на гэтых абавязацельствах. . . . . | II |
| | Увага. Наступныя з паказаных, у аддзеле II части 2 гэтага табэлю дакумэнтаў абкладаюцца павялічаным у падвойнай вялічыні ўкладам пропорцыянальнага гэрбавага збору II катэгорыі: 1) аб залогу будынкаў і права забудаваньня, 2) усе іншыя, апрача вэксаляў, дакумэнты і абавязацельствы у доўгу, калі аднэй з старон не зьяўляецца ўрадавая установа або асоба, якая лічыцца на пасадзе. | |
| | **Аддзел III.** | |
| 39. | Абонементныя білеты, квітанцыі (хоць бы ў выглядзе кніжак) і г. п. дакумэнты абонементнага характару. . . . . . . . | III |
| 40. | Умовы, абавязацельствы і г. п. дакумэнты па прадажы і дастаўцы сельскімі гаспадарамі прадуктаў іх гаспадаркі. . . . . | III |
| 41. | Умовы, абавязацельствы і г. п. дакумэнты па перавозцы усякага гатунку грузаў або тавараў (у тым ліку накладныя і коносаменты) . . . . . . . . . . . . . | III |
| 42. | Умовы, папяраджаючыя утварэньне канчатковых умоваў: аб займу (арт. 218 грамадзянскага кодэксу) запрадажныя запісы і інш. . . . . . . . . . . . . . . . | III |
| 43. | Дакумэнты, пасьведчаючыя утварэньне умоваў страхаваньні усякага роду (полісы, аднаўляючыя пасьведчаньні, страхавыя квітанцыі і г. п.). . . . . . . . . . . | III |
| 44. | Дакумэнты па утвараемым на біржах гандлёвым зьдзелкам, незалежна ад формы утварэньня дакумэнтаў . . . . . . . . . . | III |
| 45. | Квітанцыі, расьпіскі, білеты і інш. дакументы па прыёму грашовых ўкладаў. . . . | III |
| 46. | Квітанцыі, білеты, расьпіскі і інш. дакумэнты па прыёму на зьбераганьне ўкладаў і усякае іншае маемасьці; складачныя пасьведчаньні таварных складаў (варыянты). | III |
| 36. | Надпісы перадатачныя аб перадачы правоў і абавязкаў па умовам, варункам, абавязацельствам. . . . . . . . . . . . . | III |
| 48. | Рахункі, білеты, расьпіскі, квітанцыі, апрача асобна паказаных, выдаваемыя па славесным зьдзелкам усякага гатунку і зьяўляючыяся довадам зьдзелкі . . . . . . . . | III |
| | Увага 1. Наступныя з паказаных у аддзеле III часткі 2-й табэлю дакумэнтаў абкладаваюцца павялічаным, у падвойнай вялічыні, акладам пропорцыянальнага гэрбавага збору III катэгорыі: п. 1 а) аб перавозках, калі аднэй з старон не зьяўляецца ўрадавая установа, або асоба, лічучаяся на пасадзе, б) аб запрадажы будынкаў і гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў, в) аб страхаваньні хатняй маемасьці тавараў, процантных папераў ад ціражу, аб страхаваньні курсу (рэпорт). п. 2. Перадатковыя надпісы аб перадачы правоў і абавязкаў па умовам і абавязацельствам, паказаным у ўвазе 1-й да аддзелу 1 і у п. 1 увага да аддзелу II часткі 2-га табэлю, а таксама у п. п. 1 і 3 гэтае увагі. п. 3. Па гандлёвым зьдзелкам, апрача утвараемых на біржах, незалежна ад формы утварэньня такіх дакумэнтаў (умовы, абавязацельствы, лісты, рахункі, расьпіскі і інш.). | |
| | Увага 2. Пад гандлёвымі зьдзелкамі разумеюцца зьдзелкі па куплі тавараў дзеля перапрадажы у гандлёвых прадпрыемствах, матар'ялаў дзеля перапрацоўкі у прамысловых прадпрыемствах, а таксама па куплі скарыстуемых без пагашэньня пры гандлю або у прамысловых прадпрыэмствах успаможных матар'ялаў (напр. упаковачныя, змазачных, топліўных, асьвятліцельных і г. п.). | |

| §§ | Найманьне папераў, актаў і дакумэнтаў. | Катэгорыя гэрбавага збору. |
|---|---|---|
| | **Частка 3.** | |
| 49. | Копіі паказаных у гэтым табэлю дакумэнтаў, падлеглых простаму гэрбаваму збору і выпіскі з іх аплачваюцца гэрбавым зборам у аднолькавых з арыгіналамі памерах; копіі дакумэнтаў, падлеглых пропорцыянальнаму гэрбаваму збору і выпіскі з іх, апрача першых або галоўных экземпляраў выпіскаў з актовых кніжак, аплачваюцца у памеры $^1/_{10}$ таго збору, які, належыць з арыгінала, але ня ніжэй простага гэрбавага збору IV катэгорыі. | |
| 50. | Надпісы на умовах, абавязацельствах і г. п. актах, павялічываючыя іх суму (пры працягу тэрміну іх дзейнасьці і інш.), аплачваюцца пропорцыянальным гэрбавым зборам тэй жа катэгорыі, як і самыя акты; водлуг сумы павялічэньня. | |

---

ДАДАТАК 2-гі

**да статуту аб дзяржаўным гэрбавым зборы.**

## Пералічэньне выняткау па гэрбавому збору.

**I. Установы і асобы, якія звальняюцца ад гэрбавога збору.**

§ **1.** Урадовыя установы, а так сама ўрадовыя асобы па выкананьню імі службовых абавязкаў.

§ **2.** Вольныя ад прамысловага падатку дзяржаўныя (ў тым ліку камунальныя) прадпрыемствы.

§ **3.** Арганізацыі камуністычнае партыі й камуністычнага саюзу моладзі.

§ **4.** ВЦСПС і саюзы, які ім злучаны.

§ **5.** Цэнтральны дом селяніна ў Маскве і гэткія ж дамы мяйсцовыя.

§ **6.** Вучоныя, навуковыя і культурна-асьветныя установы і арганізацыі.

§ **7.** Афіцыяльна зацьверджаныя ці зарэгістраваныя арганізацыі дапаможнага характару.

§ **8.** Асобы, якія знаходзяцца на социяльным забязьпячэньні.

§ **9.** Безпрацоўныя, якія атрымоўваюць дапамогу з сум социяльнага страхаваньня.

§ **10.** Асобы за якімі судам прызнана права беднасьці водлуг вызначанай справы, дзе б яна не вытваралася.

Увага. Прадпрыемствы комэрцыйнага характару, якія знаходзяцца ў выданьні паказаных у §§ 3—7—падлягаюць вымаганьням Гэрбавога Статуту на агульных падставах.

**II. Дакумэнты, якія не належаць да аплаты гэрбавым зборам.**

**1. Дакумэнты агульнага значэньня.**

§ **11.** Дакумэнты, якія належаць звычайнаму гэрбавому збору IV разраду, калі сума дакумэнту перавышае ня больш, як 50 разоў гэрбавы збор належачы з іх.

§ **12.** Заявы у урадовыя установы й урадовым асобам, калі падача гэтых заяваў абавязковая, г зн. калі за не падачу іх вызначаны спагнаньні.

§ **13.** Копіі дакумэнтаў, зволеных ад гэрбавога збору, куды б яны не падаваліся, за выключэньнем копіяў акцызных і прамысловых патэнтаў і папераў, якія абкладаюцца консульскімі зборамі, а так сама пасьведчаных капіяў з адасланых тэлеграм, якія выдаюцца тэлеграфнымі установамі.

§ **14.** Надпісы, апрача паказаных у дадатку 1-м да статуту ад гэрбавым зборы.

§ **15.** Адказы дзяржаўных установаў і урадовых асобаў на вольныя ад гэрбавога збору зьвяртаньні (заявы, хадайніцтвы, жалабы і інш) да іх.

§ **16.** Дадачы да ўселякага роду зьвяртаньняў (заявам, хадатайніцтвам, жалабам і інш.), якія падаюцца у урадовыя установы і урадовым асобам, калі дадачы гэтыя самі па сабе гэрбавому збору не належаць.

§ **17.** Хадайніцтвы, якія падаюцца у урадовыя установы і урадовым асобам аб выдачы дакумэнтаў, вольных ад гэрбавога збору,

**2. Дакумэнты што тычацца дзяржауных і грамадзянскіх карысьці й патрэбау, а так сама па абароне агульных правоу насельніцтва.**

§ **18.** Справаводства па выбарах у дзяржаўныя прафэсыянальныя арганізацыі.

§ **19.** Справаводства па справах апекі і социяльна—прававой абароны малаўзростных.

§ **20** Дакумэнты ў справах спагнаньняў, якія накладаюцца ў адміністрацыйным парадку, за выключэньнем справаў аб грашовых спагнаньнях за нарушэньне правілаў аб дзяржаўных і мяйсцовых падатках і зборах.

§ **21.** Дакумэнты ў справах абароны працы і грамадзянскага здароў'я.

§ **22.** Дакумэнты ў справах ахвяраваньняў на карысьць дзяржавы, дапаможных, вучэбных і навуковых установаў і арганізацыяў.

§ **23.** Дакумэнты аб справах карных.

§ **24.** Скаргі, якія запісваюцца ў скарговыя кнігі ці кідаюцца у пастаўляныя адмыслова скрынкі урадовых

установаў і урадовых асобаў, а так сама ўсё справаводзтва бюро скаргаў РСІ.

§ 25. Заявы да ўрадовых установаў і ўрадовых асобаў у дзяржаўных і грамадзянскіх інтэрасах.

**3. Дакумэнты у справах агульнага кіраваньня.**

§ 26. Пасьведчаньні асобы ўселякага сорту, якія выдаюцца:

а) грамадзянам Саюзу ССР (у тым ліку й заграчічныя пашпарты).

б) чужаземцам, якія належаць да экіпажаў комэрцыйных судноў, што зімуюць у портах Саюзу ССР.

**4. Дакумэнты у справах ваенных.**

§ 27. Дакумэнты ў справах вайсковага абавязку.

§ 28. Хадайніцтвы аб адшуканьні чырвонаармейцаў і асобаў каманднага складу, паданыя іх сваякамі.

**5. Дакумэнты у судовых справах.**

§ 29. Одпісы папераў і дакумэнтаў, у тым ліку і даручэньняў, якія падаюцца ў судовыя ўстановы для паведамленьня супраціўнага боку.

§ 30. Звароты сьведак і экспэртаў у судовыя установы па справах, водлуг якіх яны выклікаюцца ў суд.

**6. Дакумэнты у справах культурна-асьветных.**

§ 31. Дакумэнты ў справах народнае асьветы.

§ 32. Звароты да ўрадовых установаў і да ўрадовых асобаў па пытаньнях, што тычацца дасьледаваньняў і адкрыцьцяў у галіне навукі і тэхнікі.

§ 33. Звароты да ўрадовых навуковых установаў у справах, якія ўваходзяць у абшар навуковай чыннасьці гэных установаў.

**7. Дакумэнты у справах народнае гаспадаркі й прамысловасьці.**

§ 34. Бялеты, якія выдаюцца лясным ведамствам на сухапутную перавозку лясных выробаў і матар'ялаў.

§ 35. Дакумэнты ў справах працоўнага землекарыстаньня й зьвязанага з ім землебудаўніцтва.

§ 36. Дакумэнты ў справах перасяленьня на вольныя мейсцы.

§ 37. Звароты да ўрадовых установаў і да ўрадовых асобаў у справах аб утварэньні выставак уселякага сорту.

§ 38. Звароты дзяржаўных прадпрыемстваў, хоць бы і ня звольненых ад харчпадатку, да урадовых установаў, якія над імі адмініструюць.

§ 39. Звароты да ўрадовых установаў і да ўрадовых асобаў у справах сельска-гаспадарчых меліорацыяў, па разьвіцьцю адмысловых культураў, па палепшаньню жывёлаводзтва й рыбаводзтва, па разьвіцьцю пчалярства й шолкаводзтва.

**8. Дакумэнты у справах рабочых, служачых і незаможных асобаў.**

§ 40. Дзелавадзтва камунальных ламбардаў па выдачы пазычак рабочым і служачым.

§ 41. Умовы наконт найму рабочых у гандлёвыя й прамысловыя прадпрыемствы й на сельска-гаспадарчыя працы.

§ 42. Умовы наконт аддачы на адукацыю ўселякага сорту працы.

§ 43. Дакумэнты у справах социальнае забясьпекі.

§ 44. Квіткі й распіскі на атрыманьне пэнсіі на пасадзе, заробачнай платы, пэнсіі, дапамог, пайкоў і г. д. з дзяржаўных і прыватных установаў, дзяржаўных і ўрадовых прадпрыемстваў і арганізацыяў.

§ 45. Пасьведчаньні аб беднасьці.

§ 46. Пасьведчаньні і інш. дакумэнты, якія выдаюцца ўрадовымі ўстановамі рабочым і служачым гэных установаў у зьвязку з праходжаньнем імі службы.

§ 47. Пасьведчаньні ў першы раз аб раджэньні й сьмерці рабочых і служачых, чырвонаармейцаў, безпрацоўных асобаў, якія знаходзяцца на сацыальнай забясьпецы і сяброў сям'і ўсіх памянёных асобаў.

§ 48. Хадайніцтвы аб выдачы дапамогі й пазычак грашовых і матар'яльных з дзяржаўных сродкаў, абавязкоўстваў аб узвароце іх і ўсё справаводзтва аб выдачы гэных дапамогаў і пазычак.

**9. Дакумэнты у справах крэдытовых і грашовага звароту, аб падатках і зборах.**

§ 49. Узоры вэксалёў, якія прысылаюцца адзіна для акцэптацыі, калі праз іх ня можа быць зроблена ніякай дзеі, апрача акцэпту.

§ 50. Справовадзтва дзяржаўных працоўных скарбніцаў (касс) ашчэднасьці.

§ 51. Дакумэнты, зьвязаныя з падпіскай на дзяржаўныя пазыкі, а так сама з атрыманьем выйгрышаў водлуг гэных пазык і схову аблігацыяў гэных пазык у скарбніцах НКГС.

§ 52. Дакумэнты ўселякага сорту водлуг простага й умоўнага бягучых рахункаў у установах дзяржаўнага банку.

§ 53. Скаргі (супярэчкі), якія падаюцца на аблад падаткам і зборамі дзяржаўнымі й мяйсцовымі, за выключэньнем скаргаў, якія падаюцца цэнтральнымі органамі савецкай улады.

§ 54. Заявы (звароты) у дзяржаўны банк, яго канторы і аддзяленьні, водлуг іх опэрацыяў.

§ 55. Крэдытывы, якія выдаюцца банкамі за канавыя грошы.

§ 56. Патэнты і бялеты прамысловыя й акцызныя.

§ 57. Пераваднык бялеты і лісты, якія іх адменяюць, распіскі, квіткі і інш. дакумэнты, што выдаюцца крэдытовымі установамі ў пасьведчаньне прыняцьця грошай для пераваду, калі заплата водлуг іх назначаецца, згодна правілаў гэных установаў, у вызначаны, паказаны на гэных дакумэнтах крайні тэрмін.

§ 58. Процантныя паперы, якія выдаюцца замест старых і сапсаваных.

§ 59. Хадайніцтвы аб узвароце не належна прынятых дзяржаўных і мяйсцовых падаткаў і збараў і аб залічэньні іх у лік іншых падаткаў і збораў.

§ 60. Хадайніцтвы аб рассрочцы й скасаваньні дзяржаўных і мяйсцовых падаткау і збораў дзеля паводак, няўраджаю, пажару і іншых бядот.

§ 61. Хадайніцтвы аб абмене грашовых знакаў ранейшых узораў (абразцоў), старых і сапсаваных—на новыя.

§ 62. Чэкі (загады водлуг бягучых рахункаў).

**10. Дакумэнты па страхаваньню.**

§ 63. Дакумэнты па абавязковаму абкладоваму страхаваньню, водлуг дзяржаўнага дадатковага абкладовага кратнага страхаваньня будынкаў ад агню ў сельскіх мяйсцавосьцях, водлуг страхаваньня грошай, якія пасылаюцца цераз почту, лістоў, дакумэнтаў і пасылак.

§ 64. Заявы (звароты) ў Дзярж. страх. і яго установы і да агентаў Дзярж. страх. у справах страхавых опэрацыяў.

**11. У справах транспарту і вьвязку.**

§ 65. Бялеты для праезду па чыгунках і іншых шляхох зносін.

§ 66. Квіткі на багаж нулёвы й які перавозіцца водлуг пасажырскіх бялетаў.

§ 67. Квіткі аб прыняцьці пасажырскага багажу на схоў у асобных камерах пры станцыях чыгунак і на параходных прыстанях.

§ 68 Звароты ў цэнтральныя й мяйсцовыя установы пачтова-тэлеграфнага ведамству у справах аб пачтова-тэлеграфнай корэспадэнцыі і перагавораў па тэлефону (апрача заяваў аб выдачы пасьведчаных одпісаў з адасланых тэлеграмаў.

**12. Дакумэнты ўселякага зьместу.**

§ 69. Бялеты для ўваходу на тэатры й ігрышчы.

§ 70. Даручэньні: а) у справах вольных ад гэрбавога збору; б) якія выдаюцца установамі і асобамі, паказанымі ў §§ 1—10 гэтага расьпісаньня; в) на атрыманьне пэнсіі па пасадзе, заробачнай платы, пэнсіі і інш. выдач; г) на атрыманьне пачтова-тэлеграфнай корэспадэнцыі.

§ 71. Дакумэнты, якія абкладаюцца консульскімі зборамі.

§ 72. Дакумэнты па эвакуацыі і рээвакуацыі палонных, дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, уцякачоў і інш., належачых эвакуацыі ці рээвакуацыі.

§ 73. Заявы рэгістрацыйнага напрамку да ўрадовых установаў і ўрадовых асобаў, калі заявы гэтыя не патрабуюць ніякіх пісьмовых адказаў, дазволаў, пасьведчаньняў і інш. папер.

§ 74. Звароты да ўрадовых установаў і ўрадовых асобаў водлуг залогаў, якія ўносяцца ў дзяржаўную скарбніцу як забясьпека выкананьня умоваў і абавязкоўстваў (аб узвароце залогаў, залічэньні іх водлуг іншых умоваў і інш.)

§ 75. Звароты (заявы, хадайніцтвы) у пасольствы, місіі і консульствы Саюзу ССР.

§ 76. Перапіска службовая знаходзячыхся ў Саюзе ССР замежных дыплёматычных прадстаўнікаў з урадовымі установамі й урадовымі асобамі.

§ 77. Рэкамэндацыі аб дабрачыннасьці й політычнай дабрачыннасьці.

§ 78. Спраўкі адрасовага стала.

§ 79. Уселякія іншыя дакумэнты, якія народны камісарыят грашовых справаў знойдзе патрэбным звольніць ад гэрбавога збору.

---

**115. Аб прыстасаваньні паменьшаных ставак пропорцыйнага гэрбавога збору пры умовах аб забудаваньні зямельных в участкаў, дабудаваньня някончаных будоў і аб арэндзе зямлі дзеля мэты палепшаньня хлебаробных культур, меліорацй і распрацгваньня нетраў.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. 3-ю увагу 37-га § 1-га дадатку да статуту аб дзяржаўным гэрбавым зборы, які зацьверджаны ЦВК і СНК Саюзу ССР 17-га жніўня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР № 5, арт. 114-й) падаць у наступнай рэдакцыі:

«3-я увага. Умовы аб забудаваньні зямельных вучасткаў, адбудаваньня зруйнаванай і дабудаваньне няскончаных будоў, а так сама аб арэндзе зямлі дзеля мэты палепшаньня хлебаробных культур, і ўсялякага роду меліорацы, як: прасушэньне балот, нарыхтаваньне штучнай паводкі і г. д. і дзеля мэты распрацаваньня зямельных нетраў,—падлягаюць аплаце прапарцийным гэрбавым зборам у памеры 10,5% сумы акту».

2. Вызначаныя ў 1-м арт. зьменьшаныя стаўкі прапарцыйнага гэрбавага збору набываюць сілу з часу агалашэньня гэтае пастановы і маюць сілу так сама для умоваў якія заключаны да яе выданьня.

Увага: Гэрбавы збор аплочаны да набыцьця сілы гэтай пастановы, паказанага у першым арт. памеру, не зьвяртаецца.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*За Сэкратара ЦВК Саюзу ССР* **Ф. Кон.**

**4 верасьня 1923 г.**
**Масква — Крэмль.**

**Распублікавана у № 195 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 31 жніуня 1923 г.**

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Народных Камісараў
## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**116. Аб радыёстанцыях адумысловага назначэньня.**

1. У мэтах разьвіцьця радыёсеці Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік народному камісарыяту почт і тэлеграфаў даецца права дазваляць дзяржаўным, прафэсыанальным і партыйным установам і арганізацыям на падставах, выкладзеных у гэтым дэкрэту, і згодна інструкцыі да яго, утварэньне і эксплёатацыю радыёстанцыяў дзеля адумысловых мэтаў.

2. Радыёстанцыі адумысловага назначэньня падзяляюцца на:

а) радыёстанцыі прамыслова—камэрцыйныя;

б) радыёстанцыі, якія ставяць сабе культурно-асьветныя і навуковыя мэты;

в) радыёстанцыі аматарскія.

**Прамыслова - камэрцыйнымі** лічуцца радыёстанцыі, прызначаныя дзеля дапамогі прамысловым, альбо камэрцыйным задачам калектыву, іх эксплёатыруючага.

**Культурно - асьветнымі** лічуцца радыёстанцыі, якімі ведаюць культурно-асьветныя і навуковыя установы, не скарыстаючыя іх дзеля здабыцьця камэрцыйнага прыбытку.

**Аматарскімі**—лічуцца радыёстанцыі, якія не ставяць сабе ні прамысловых, ні камэрцыйных мэтаў і устанаўляемыя альбо дзеля забавы, альбо дзеля аматарскага навучаньня радыё-справы.

> Увага. Належнасьць радыёстанцыяў да тэй ці іншай групы вызначаецца народным камісарыятам почт і тэлеграфаў.

3. Калектыў, якому будзе дазволена мець радыёстанцыю адумысловага назначэньня, зьяўляецца абонентам радыёсеці Саюзу ССР.

Абонентная плата за карыстаньне радыёсецьцю Саюзу ССР устанаўляецца народным камісарыятам почт і тэлеграфаў і зацьверджаецца Саветам Народных Камісараў.

4. Скарыстаньне радыёстанцыі адумысловага назначэньня дзеля прыёму або перадачы корэспондэнцыі, апрача зьвязанай з яе адумысловымі задачамі, дапушчаецца ня інакш, як па згодзе на гэта народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў.

5. На радыёстанцыі адумысловага назначэньня можа быць ускладзена выкананьне агульна-дзяржаўных абавязкаў, вызначаемых інструкцыей да гэтага дэкрэту.

6. Радыёстанцыі адумысловага назначэньня павінны быць абарудаваны адумысловымі радыёпрыборамі тыпаў і сыстэмаў, устанаўляемых народным камісарыятам почт і тэлеграфаў і прыгатоўленых умежах Саюзу ССР. Рэчы адумысловага абарудаваньня і снабжэньня выдаюцца на падставе выданых на гэтыя радыёстанцыі дазволаў народнага камісарыята почт і тэлеграфаў, прычым у мэтах кантролю выдачы паказаных рэчаў ўводзіцца абавязковая рэгістрацыя у народным камісарыяте почт і тэлеграфаў належных прадпрыемстваў і установаў.

> Увага. Выключэньне з гэтага артыкулу дапушчаецца дзеля рыдыёстанцыяў, устанаўляемых дзеля навукова-дасьледчай працы з вучэбнa-навуковымі, альбо радыёвытворчымі мэтамі, у якіх выпадках можа быць дапушчана здабыцьцё абарудаваньня закардонам па згодзе народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў з вышэйшым саветам народнай гаспадаркі і народным камісарыятам замежнага гандлю.

7. Моц радыёстанцыі, характар і даўжыня хвалі, а таксама досаназон і характар абарудаваньня прыёмнага будаваньня і гадзіны працы устанаўляюцца народным камісарыятам почт і тэлеграфаў. За народным камісарыятам почт і тэлеграфаў застаецца права з'іначаньня устаноўленай ім моцы, даўжыні хвалі і гадзін працы, а таксама дыапазону прыёмнага будаваньня у залежнасьці ад з'іначаньня агульных варункаў працы радыёсеці Саюзу ССР.

8. Як на устаноўку, гэтак і на эксплёатацыю радыёстанцыяў адумысловага назначэньня, народным камісарыятам почт і тэлеграфаў выдаюцца асобныя дазволы.

у якіх пералічаюцца усе варункі утварэньня або эксплёатацыі станцыі, гэтыя варункі падлегаюць точнаму выкананьню.

9. Радыёстанцыі адумысловага назначэньня з перадаючым пабудаваньнем павінны абслугоўвацца кваліфіцыраванымі рыдыё-мастакамі, маючымі належнае пасьведчаньне выдаваемае народным камісарыятам почт і тэлеграфаў у ўстаноўленым ім парадку.

10. Радыёстанцыі адумысловага назначэньня павінны захоўываць апрача варункаў, паказаных у выданых ім дазволах, таксама і усе правілы якія будуць устаноўлены народным камісарыятам почт і тэлеграфаў у адносінах гэтых радыёстанцыяў.

11. Калі будуць зачэплены інтарэсы дзяржавы, зьвязаныя з радыёсувязьзю, народнаму камісарыяту почт тэлеграфаў даецца права часовага спыненьня радыё станцыяў, а таксама часовага адстраненьня ад працы абслугоўваючых яе асобаў, з прыцягненьнем вінаватых да судзебнай аднаведнасьці, прычым радыёстанцыя можа быць зачынена, альбо асоба можа быць адстранена ад абслугоўваньня радыёстанцыі да вынясеньня судам суналежнага прыгавору.

12. Нарушэньне правілаў гэтага дэкрэту і інструкцыі да яго (арт. 13), заключаючыяся:

а) ў утварэні і эксплёатацыі нелегальных радыёстанцыяў;

б) у скарыстаньні дазволеных у устаноўленым гэтым дэкрэтам парадку радыёстанцыяў, на шкаду Саюзу ССР, і

в) у нарушэньні тайны радыётэлеграфнай корэспондэнцыі караецца прадгледжанымі суналежна арт. арт. 59, 60—62, 66, 117, 212, 213 карнага кодэксу карамі.

13. Гэты дэкрэт ажыцьцяўляецца у межах, устанаўліваемых інструкцыей народнага камісарыяту почт і тэлеграфаў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраунік справау СНК Саюзу ССР* **Н. Горбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

4 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 225 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 12 верасьня 1923 г.

---

## 117. Аб прымусовым размяшчэньні дзяржаўнага 6% выйграшнага займу сярод багатых колаў насельніцтва.

У той час, як рабочая кляса праз колектыўную падпіску прымае дзеяльны удзел у размяшчэньні дзяржаўнага 6% выйграшнага займу, удзел і падпіска на заём з боку багатых колаў насельніцтва далёка не адпавядае тым сродкам, якія у цяперашні час знаходзяцца у іх руках. Прызнаючы неабходным устанавіць прымусовы парадак размяшчэньня сярод іх аблігацыяў займу, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Адначасова з выплатай дзяржаўнага прыбыткова-памаентнага падатку і з выбаркай патэнтаў па прамысловаму падатку прыватныя прадпрыемствы, арганізацыі і асобы павінны дабыць у скарбніцы НКГС, у якой вядзецца выплата падатку, аблігацыі дзяржаўнага 6% выйграшнага займу на наступных падставах (арт. 2—9).

2. Плацельшчыкі дзяржаўнага прыбытковага падатку павінны дабыць:

а) Плацельшчыкі, аднесеныя водлуг шкалы прыбытковага падатку, зацьверджанай ЦВК і СНК Саюзу ССР 27 ліпеня 1923 г. («Изв. ЦИК Союза ССР и ВЦИК ад 29 ліпеня 1923 г.) да 1, 2 і 3 катэгорыяў—па аднэй аблігацыі 5-ці рублёвай вартасьці;

б) плацельшчыкі, аднесеныя да 4 і 5 катэгорыяў—дзьве аблігацыі;

в) плацельшчыкі, аднесеныя да 6, 7 і 8 катэгорыяў—тры аблігацыі;

г) плацельшчыкі, аднесеныя да 9, 10 катэгорыяў—пяць аблігацыяў;

д) плацельшчыкі, аднесеныя да 11 і 12 катэгорыяў—сем аблігацыяў;

ж) плацельшчыкі аднесеныя да 15 катэгорыі—дванаццаць аблігацыяў;

з) плацельшчыкі, аднесеныя да 16 катэгорыі — на суму у памеры 25% належачага з іх акладу дзяржаўнага прыбытковага падатку, з акругленьнем уверх.

3. Плацельшчыкі памаентнага падатку, пачынаючы з 4 катэгорыі зацьверджанай ЦВК і СНК 27 ліпеня 1923 г. шкалы, незалежна ад падпіскі, паказанай у арт. 2-ім, павінны дабыць аблігацыі выйграшнага займу у наступнай колькасьці:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| а) | плацельшчыкі, | аднесеныя да | 4 кат. | —1 абл. | 5 р. варт. |
| б) | „ | „ | 5 „ | —2 | „ |
| в) | „ | „ | 6 „ | —3 | „ |
| г) | „ | „ | 7 „ | —4 | „ |
| д) | „ | „ | 8 „ | —6 | „ |
| е) | „ | „ | 9 „ | —9 | „ |
| ж) | „ | „ | 10 „ | на суму у памеры 100% належачага з іх акладу памаентнага падатку з акругленьнем уверх. | |

4. Аб здабыцьці аблігацыяў займу у парадку арт. 2 і 3 гэтае пастановы робіцца паметка з паказаньнем №№ выданых аблігацыяў, на квітанцыях аб выплаце прыбыткова-памаентнага падатку.

5. Пры выбарцы паўгадовых патэнтаў па прамысловаму падатку, памянённыя у арт. 1-ым прадпрыемствы, арганізацыі і асобы, павінны дабыць аблігацыі займу у наступнай калькасьці:

а) Выбіраючыя патэнт на гандлёвыя прадпрыемствы першых двух катэгорыяў, калі імі не пададзена квітанцыя аб падпісцы на заем, згодна арт. 2 і 3 гэтае пастановы — адну аблігацыю; выбіраючыя патэнт на гандлёвыя прадпрыемствы трэцяе катэгорыі—тры аблігацыі, чацьвертай катэгорыі—дзесяць аблігацыяў і пятай катэгорыі—дваццаць пяць аблігацыяў 5-ці рублёвай вартасьці;

б) выбіраючыя патэнт на прамысловыя прадпрыемствы:

Першае катэгорыі, калі імі не пададзена квітанцыя аб падпісцы на заем, згодна арт. 1 або 2 гэтае пастановы—адну аблігацыю, выбіраючыя патэнты другай і

трэцяй катэгорыяў — тры аблігацыі, чацьвертай катэгорыі—пяць, пятай катэгорыі—сем, шостай катэгорыі—дзесяць, сёмай — трынаццаць, восьмай — пятнаццаць, дзевятай — дваццаць, дзесятай — трыццаць, адзінаццатай—сорак і дванаццатай—пяцьдзесят аблігацыяў 5-ці рублёвай вартасьці;

в) выбіраючыя патэнт на асабістыя прамысловыя заняткі першае і другое катэгорыяў — адну, трэцяй—дзьве, чацьвертай — тры і пятай — дзесяць аблігацыяў 5-ці рублёвай вартасьці.

6. Аб здабыцьці аблігацыяў у парадку арт. 5 гэтае пастановы робіцца паметка на патэнту, з паказаньнем №№ выданых падпісчыку аблігацыяў.

7. У выпадку адсутнасьці або недахвату у мясцовых грашовых аддзелах неабходнай колькасьці аблігацыяў дзеля здавальненьня абавязковай падпіскі, аддзелы грашовых справаў павінны, угрымліваючы неабходныя сумы з падпісчыкаў, выдаваць часовыя квітанцыі, клапочучы як можна больш тэрміновым абменам гэтых квітанцыяў на аблігацыі займу.

8. Скарбніцы НКГС, прынімаючыя прыбыткова-паматентны падатак і выдаючыя патэнты, павінны не выдаваць квітанцыі у прыёме сумаў дзеля выплаты прыбыткова-памаентнага падатку і затрымоўваць выдачу патэнтаў аж да здабыцьця аблігацыяў выйграшнага займу, згодна гэтае пастановы.

9. Аблігацыі займу, разьмяшчаямыя у парадку гэтае пастановы, павінны мець паметку належнага органа грашовых справаў: «не падлягае прыёму у залог і ня можа котыравацца на біржы».

10. НКГС даручаецца зьдзейсьніць гэту пастанову па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Кіраўнік справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

4 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 201 „Известия“ ЦВК Саюзу ССР ад 7 верасьня 1923 г.

---

## 118. Аб прымусовым разьмяшчэньні дзяржаўнага 6% выйграшнага займу сярод прыватных падрадчыкаў, дастаўнікаў і камісіанэраў.

У дадатак і разьвіцьцё пастановы сваей ад 4 верасьня г.г. аб прымусовым ра ьмяшчэньні дзяржаўнага 6% выйграшнага займу сярод багатых колаў насельніцтва («Изв.» ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 7 верасьня 1923 г.). Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Устанавіць прымусовы парадак разьмяшчэньня аблігацыяў дзяржаўнага 6% выйграшнага займу сярод прыватных прадпрыемстваў і асобаў, зьяўляючыхся падрадчыкамі, дастаўнікамі і камісіанэрамі дзяржаўных (у тым ліку і камунальных), коопэратыўных і прыватных установаў і прадпрыемстваў на наступных падставах (арт. 2—5).

2. Пры выплаце памянёным у арт. 1-ым установам і прадпрыемствамі прыватным падрадчыкам і дастаўнікам сумаў, належачых апошнім водлуг умоваў, зробленых па дзень выданьня гэтае пастановы, 15% сумы кожнага плацяжа абавязкова выплачваецца аблігацыямі выйграшнага займу.

3. Адтрымліваючым камісіёную узнагараду водлуг абавязацельстваў і даручэньняў, прынятых імі ад памянёных у арт. 1-ым установаў і прадпрыемстваў па дзень выданьня гэтай пастановы, абавязкова выплачваюцца у рахунак камісіёнай узнагароды, пры кожнай выдачы, 25% выплачваемай сумы аблігацыямі выйграшнага займу.

4. Выплата часткі плацяжоў аблігацыямі выйгрaшнага займу.

4. Выплата часткі плацяжоў аблігацыямі выйграшнага займу ня можа служыць падставай да павялічэньня цаны падрадаў і даставак і камісіёнай узнагароды.

5. Дзеля выдачы аблігацыяў дастаўнікам і камісіанэрам на памянёных падставах памянёныя у арт. 1 установы і прадпрыемствы абавязаны дабываць, згодна асобных заяваў не падлягаючых гэрбаваму збору, аблігацыі займу з надпісам адзелу грашовых справаў «Не падлягае котыроўцы на біржы і прыёму у залог». Названыя вышэй установы і прадпрыемствы абавязаны вясьці гэткага роду аблігацыям точны учот, а падлягаючыя аддзелы грашовых справаў рэгістраваць прадаваемыя на гэтай падставе аблігацыі займу у асобных рэестрах з паказаньнем назвы установаў і прадпрыемстваў, адтрымаўшым аблігацыі і нумароў гэтых аблігацыяў.

6. Парушэньне гэтае пастановы асобамі, якія лічуцца на пасадзе дзяржаўных і коопэратыўных установаў і прадпрыемстваў караецца водлуг арт. 107 карн. кодэксу. Прыватныя асобы за нарушэньне гэтае пастанозы падлягаюць адпаведнасьці водлуг арт. 79 ч. 2 карнага кодэксу.

7. Гэту пастанову зьдзейсьніць па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Кіраўнік Справаў СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

18 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ

# Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**119. Аб ануліраваньні правоў дзяржорганаў на адтрыманьне усякага гатунку маемасьці, належачай ім у парадку дзяржаўнага снабжэньня да 1 студзеня 1922 г.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Усе правы дзяржорганаў (дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў) на атрыманьне усякага гатунку маемасьці, належачай ім у парадку плянавага і непляновага дзярж. снабжэньня да 1-га студзеня 1922 году і да гэтага тэрміну чаму-небудзь імі не адтрыманага, прызнаюцца утрачанымі.

2. Гэта пастанова не пашыраецца на наступныя выпадкі:

а) калі аб перадачы маемасьці, паказанай у арт. 1-ым, належнаму дзяржоргану быў складзен да 1 студзеня 1922 году належны прыёмачны акт.

б) калі па поваду падлеглай передачы маемасьці зрабілася да 1 студзеня 1922 г. якая-небудзь асобная згода паміж зацікаўленымі дзяржорганамі.

У гэтых выпадках усе адносіны па паказанай маемасьці павінны быть ліквідаваны у працягу трох месяцаў з дня апублікаваньня гэтай пастановы пад пагрозаю утраты правоў на адтрыманьне маемасьці, калі у памянёнай вышэй згодзе не прадгледжана іншага тэрміну.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І Рыкаў.**
*Сэкратар СРА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

3 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 208 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 15 вересня 1923 г.

---

**120. Аб павялічэньні ставк простага гэрбавага збору.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Датычна да цьвёрдых ставак простага гэрбавага збору у 1 р. 25 к., 75 к., 10 к. і 5 к., вызначыць стаўкі простага гэрбавага збору у грашовых знаках 1923 г.—у 300 р., 150 р., 25 р. і 10 рублёў.

2. Даручыць НКГС зьдзейсьніць гэту пастанову па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

31 жніўня 1923 г.
Масква.—Крэмль.

Апублікавана у № 197 „Известий ЦВК Саюзу ССР ад 2 верасьня 1923 г.

---

**121. Аб выразу ставак простага гэрбаваго збору у чырвонным вылічэньні.**

Дзеля разьвіцьця арт. 4 і 5 статуту аб гэрбавым збору ад 17 жніўня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР № 5, арт. 114) і дзеля з'іначаньня пастановы СПА ад 31 жніўня 1923 г. («Известия» ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 2 верасьня 1923 г.) Савет Працы і Абароны Саюзу С Р **пастанаўляе:**

1. Цьвёрдыя стаўкі простага гэрбавага збору выказаць у чырвонным вылічэньні у наступных памерах: 0,165 чырв., 0,1 чырв., 0,115 чырв. і 0,006 чырв.

2. Спагнаньне гэрбавага збору рабіць у парадку арт. 9-га статуту аб гэрбавым збору або чырвонцамі па іх номінальнай цане або грашовымі знакамі па курсу чырвонца у дзень выплаты.

3. Даручыць НКГС Саюзу ССР зараз жа паклапаціцца вырабіць гэрбавыя знакі у чырвонным вылічэньні.

4. Тэрмін зьдзейсненьня гэтае пастановы устанаўляецца НКГС Саюзу ССР.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

14 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

**122.** **Аб пашырэньні правоў, дадзеных кіраўніцтву Сямірэчанскай чыгункі [1]).**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Дадзенае часовам кіраўніцтву Сямірэчанскай чыгункі пастановай СПА ад 15 сьнежня 1922 г. права рабіць гандлёвыя і прамысловыя опэрацыі, у мэтах павялічэньня за рахунак прыбыткаў будаўнічага фонду шляху, пашырыць дачай яму права прыцягваць да памянёных опэрацыяў прыватны капітал і утвараць самастойныя гандлёва-прамысльвыя прадпрыемствы з умовай абавязковага адлічэньня вядомай часткі прыбытку на будаўнічыя патрэбы Сямірэчанскай чыгункі.

2. У мэтах рацыанальнай пастаноўкі гандлёвых опэрацыяў дазволіць часоваму кіраўніцтву шляху утварыць дапаможнае таварыства дзеля гандлёвых опэрацыяў пад назваю «Сямірэчторг».

Статут таварыства падлягае зацьверджаньню у агульным парадку.

3. У мэтах падняцьця эканамічн. вартасьці Сямірэчанскай чыгункі і павялічэньня яе будучага грузазвароту, даручыць часоваму кіраўніцтву паклапаціцца знаходжаньнем і уключэньнем у гаспадарчы камбінат шляху, у устаноўленым законам парадку, розных маемасьцяў ў выглядзе зямельных вучасткаў, часткаю пасяўных плошчаў, гарняцкіх багацьцяў і г. п.

4. Дазволіць часоваму кіраўніцтву Сямірэчдарогі дзеля аплаты перавозак будаўнічых матар'ялаў, а таксама дзеля узмацненьня зваротных сродкаў па дапаможнай гандлёвай дзеяльнасьці, рэялізаваць належныя таварыству матар'ялы на суму у 200,000 залат. рублёў пры умове:

а) што памянёная маемасьці і матар'ялы зьяўляюцца лішкавымі дзеля пабудоўкі Сямірэчанскага шляху (на працягу ад ст. Аулiэ—Ата—Пішпек);

б) што яны па якасьці і умовам транспарту ня могуць быць скарыстаны на будаўніцтва памянёнага вучастку.

Сьпіс матар'ялаў, падлягаючых рэалізацыі павінен быць зацьверджан ВСНГ.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**

*Сэкратар СПА Союзу ССР* **Л. Фаціева.**

20 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 193 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 29 жніуня 1923 г.

[1]) (Зьменаю рэдакцыі пастановы, агалашонай у 41-м арт. Весьніку Раб. і Сял. Ураду Саюзу ССР).

---

**123.** **Аб з'іначаньні пастановы аб прадпрыемствах і іх аб'яднаньнях, маючых права утварэньня экспортна-імпартных прадпрыемстваў на замежным рынку.**

Савет Працы і Абароны **пастанавіў:**

Выкласьці разьдзел «В» пастановы СПА ад 18 красавіка 1923 г., аб зацьверджаньні сьпісу дзяржаўных прадпрыемстваў і іх аб'яднаньняў, маючых права утварэньня экспортна-імпортных опэрацыяў на замежным рынку (З. У. 1923 г., арт. 358) у наступнай рэдакцыі:

«Усе дзяржаўныя установы, дзяржаўныя прадпрыемствы і аб'яднаньні (сіндыкаты, трэсты, бюро і г. п.), акцыанэрныя таварыствы, за выключэньнем тых, статуты якіх зацьверджаны у концэсыйным парадку, грамадзянскіх арганізацыі, коопэратыўныя арганізацыі і г. п., ня ўключоныя у гэты сьпіс, лічуцца аўтаматычна пазбаўленымі права самастойнай вытворчасьці экспортна-імпортных опэрацыяў».

**Увага:** Гэта правіла не пашыраецца на цэнтрасаюз і сельскасаюз, якія робяць опэрацыі на замежным рынку на падставе адумысловых пастановаў.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

6 ліпеня 1923 г.
Масква—Крэмль.

Главлит № 12726.

Тираж 5000. экз

„Мосполиграф“—20-я типография „Красный Пролетарий“, Пименовская, 1/16.